*Ветэрынарная служба Беларусі прыпыніла з 3 лютага ўвоз малочных прадуктаў з Германіі (стар. 2) Дзяржава прапануе банкам падзяліцца валютай (стар. 3)*


# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 40.670
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Серада, 12 лютага 1997 № 15 Кошт свабодны


## Ступнікаву пагражаюць высылкай

**Учора ў міністэрства замежных справаў Беларусі быў выкліканы ўласны карэспандэнт НТВ Аляксандр Ступнікаў.**

Чыноўнікі знешнепалітычнага ведамства параілі журналісту *«больш уважліва і аб'ектыўна»* асвятляць падзеі ў Беларусі. Яны паведамілі, што 7 лютага беларускае МЗС накіравала ноту ў МЗС Расіі. Тэкст гэтага афіцыйнага дакумента суразмоўцы Ступнікава прад'явіць адмовіліся, але працытавалі апошні сказ ноты: *«У выпадку далейшага распаўсюджвання недакладнай інфармацыі дзейнасць прадстаўніцтва НТВ у Беларусі будзе прыпынена»*.

Напярэдадні гэтай падзеі адзін з прадстаўнікоў МЗС заявіў у прэзідэнцкіх тэленавінах АТН, што Аляксандру Ступнікаву будзе вынесена афіцыйнае папярэджанне, бо *«тэндэнцыйны падбор матэрыялаў карэспандэнта наносіць урон сяброўскім адносінам Беларусі і Расіі»*. Апошні рэпартаж Ступнікава, які не спадабаўся ўладам у Мінску, расказваў пра пікет каля прэзідэнцкай рэзідэнцыі ў абарону дзіцячага садка, які хацеў адабраць «завхоз» Ціцянкоў.

Па просьбе карэспандэнта СВАБОДЫ Аляксандр Ступнікаў пракаментаваў прэтэнзіі беларускіх уладаў:

— Я не разумею, чым выкліканы гэты «наезд», асабліва цяпер, калі ўлады сцвярджаюць, што палітычная сітуацыя дастаткова стабільная і ніхто не перашкаджае прэзідэнту ажыццяўляць свае абяцанні, дадзеныя перад рэферэндумам. Камусьці хочацца раскалыхваць лодку. Чаму выбралі менавіта мяне? Цяпер ізноў пачынаюць шукаць сусветны сіянізм, агентаў Масада, ЦРУ і іншых кантор. Можа, камусьці ўпоперак горла стаіць маё грамадзянства. І некаму здаецца, калі выкарыстаць «пяты пункт», можна паказаць, хто быццам бы перашкаджае аб'яднанню славянскіх народаў. Іншых падставаў для пагроз у мой адрас я не бачу. Я думаю, што гэта прэвентыўнае наступленне на журналістаў, якое гэтым не скончыцца.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Стрэл у Калодзішчах

*Галоўнага рэдактара СВАБОДЫ папярэдзілі...*

Куля прабіла дзве шыбіны і прайшла акурат праз тое месца ў маім доме, дзе я звычайна сяджу познімі вечарамі і працую. Натуральна, калі б у той момант я сядзеў там, то гэтыя радкі давялося б пісаць некаму з маіх калег.

Але стрэл быў зроблены ў той час, калі ў доме нікога не было. Мы прыехалі разам з жонкай і сынам дахаты а дзевятай гадзіне вечара і, пабачыўшы дробнае шкло на стале, адразу зірнулі на вакно: шыбіны былі прабітыя навылет. Знайшоўшы кулю (выстрал быў зроблены з дробнакалібернай зброі), я патэлефанаваў у міліцыю. Дзяжурная следчая група Мінскага РАУС склала ўсе неабходныя паперы, забрала кулю і паабяцала праз пару тыдняў паведаміць аб выніках расследвання.

Я перакананы, што гэта быў не выпадковы стрэл. Хто і за што вырашыў такім чынам мяне папярэдзіць — здагадацца няцяжка, паколькі нічым, акрамя журналістыкі, я не займаюся. Але мушу расчараваць тых, хто магчыма хоча запалохаць мяне падобнымі метадамі. Усё гэта бессэнсоўна.

**Ігар ГЕРМЯНЧУК**



*«Я же вас по-хорошему предупреждал»*

## Долары з радыяцыяй

**Па даволі нязвыклай прычыне два жыхары Масквы пазбавіліся 30 тысяч долараў.**

Гэтую суму валюты яны афіцыйна везлі ў машыне з Расіі ў Польшчу. Але на памежным пасту «Варшаўскі мост» беларускія мытнікі выявілі, што ўсе тры пачкі з доларамі (па 10 тыс. кожная)... радыеактыўныя. Як паведамілі нам у рэспубліканскім штабе грамадзянскай абароны, прыборы зафіксавалі, што долары выпраменьваюць да 4,16 рэнтгенаў у гадзіну (гэта амаль у 200 тысяч разоў перавышае звычайны фон). Адразу была створана спецыяльная камісія, якая сканфіскавала валюту і змясціла долары ў свінцовую скрыню.

Далейшы лёс грошай вырашаецца. Магчыма, паведамілі карэспандэнту СВАБОДЫ ў прэс-службе абласнога ўпраўлення міліцыі, іх аддадуць на дэзактывацыю, а потым вернуць гаспадарам.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Напад на дэпутата

**У панядзелак вечарам у пад'ездзе свайго дома быў збіты дэпутат Вярхоўнага Савета Анатоль Лябедзька.**



Ён вяртаўся з паседжання нядаўна створанай камісіі Вярхоўнага Савета па прававой ацэнцы парушэнняў Канстытуцыі, зробленых прэзідэнтам Лукашэнкам. Дакладна ў 19:45 Анатоль Лябедзька пераступіў парог пад'езда свайго дома і на хвілінку затрымаўся, каб дастаць пошту з паштовай скрыні. Потым, трымаючы ў руках лісты і «дыпламат», увайшоў у ліфт і націснуў кнопку трэцяга паверха. Калі дзверы ліфта расчыніліся, дэпутат убачыў перад сабой двух маладых людзей у чорных шапках, нацягнутых нізка да самых вачэй.

Як сцвярджае Лябедзька, толькі ён паспеў адзначыць пра сябе, што ніколі раней не бачыў гэтых дваіх у пад'ездзе, як на яго пасыпаліся ўдары. Білі спачатку па твары кулакамі, потым, калі дэпутат упаў на падлогу, удары наносілі нагамі. Пры гэтым невядомыя не сказалі ніводнага слова, не спакусіліся на грошы ці рэчы дэпутата і зніклі разам, як па камандзе. Выклікаўшы нарад міліцыі і паведаміўшы пра напад, Анатоль Лябедзька па асабістай ініцыятыве прайшоў экспертызу на наяўнасць алкаголя, вынікам якой стала адмоўная рэакцыя.

Каментуючы здарэнне, дэпутат выключыў магчымасць проста хуліганскага нападу. Ён узгадаў, што яшчэ пасля сваіх артыкулаў аб дзейнасці фірмы «Торгэкспа» і фонда Эсамбаева атрымліваў па тэлефоне неаднаразовыя пагрозы.

*«Відавочна, тыя, хто загадаў правесці гэты напад, вырашылі адпомсціць мне за маю пазіцыю як дэпутата і грамадзяніна,* — заявіў СВАБОДЗЕ Анатоль Лябедзька. — *Між тым гэтым людзям добра вядома, што мяне запалохаць не ўдасца. Таму застаецца зрабіць выснову: з дапамогай такіх «наездаў» грамадскасць хочуць прывучыць да думкі, што ў нас усё магчыма, ніхто не застрахавны ад здзекаў і помсты, і такім чынам збіць хвалю пратэсту супраць беззаконня»*.

Па словах А.Лябедзькі, аддзел ўнутраных справаў Фрунзенскага раёна Мінска ўзбудзіў справу па факце нападу на дэпутата. Між тым у першай палове дня ў аўторак прэс-службы міністэрства ўнутраных справаў і пракуратуры РБ на пытанне, што здарылася з дэпутатам Лябедзькам, адказвалі: *«Нічога не ведаем»*.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Улады мала. Хочацца любові

*«Шчасце — гэта калі цябе разумеюць»*, — сказана ў адным знакамітым савецкім фільме. Усё, здаецца, ёсць у першага прэзідэнта Беларусі — бязмежная, толькі яму падкантрольная ўлада, адданыя службы аховы і бяспекі, журналісты, якія праслаўляюць прэзідэнта ў артыкулах, пісьменнікі, што пішуць кнігі пра яго басаногае дзяцінства... Але чагосьці не хапае. Ёсць, аказваецца людзі, якія не разумеюць усёй глыбіні прэзідэнцкага інтэлекта, сумняваюцца наконт мудрасці прэзідэнцкіх рашэнняў, а некаторыя проста яго не любяць і нават не хаваюць гэтага.

Такой балючай несправядлівасці тонкая натура А.Л. вытрымаць не ў сілах, таму прэзідэнт дае вялікае і «шчырае» інтэрв'ю ў трох нумарах «Советской Белоруссии», імкнучыся выступіць у новым амплуа. Гэта мудры, спакойны палітычны дзеяч, паблажлівы да нястрыманых апанентаў, вопытны эканаміст, які разбіраецца ва ўсіх галінах гаспадаркі, беларускі дзяржаўнік, што любіць нашую гісторыю і культуру.

*«Так что сегодня мне, как некогда, возможно, канцлеру Сапеге, время задает очень непростой вопрос: кто мы, откуда, куда идём?»* Варта толькі парадавацца за прэзідэнта, які цяпер ўжо ведае імя славутага канцлера Вялікага княства Літоўскага. Бо 1 снежня 1994 года на сесіі Гомельскага аблсавета, адказваючы на пытанне, чаму не разглядаюцца прапановы фонда імя Сапегі, Лукашэнка, відаць, не дачуўшы, заявіў, што цяпер не час разглядаць тое, што прапануе *«товарищ Сапега»*.

Фраза стала гістарычнай, як і іншая, сказаная ў той самай аўдыторыі пра беларускую мову, на якой, аказваецца, нельга *«выказаць нешта вялікае»*, бо ў свеце *«існуюць толькі дзве вялікія мовы — руская і англійская»*. *«Мне же, как президенту, нужно внимательно следить, чтобы ни один из языков не подвергался дискриминации. Сейчас я нахожу, что есть определенные перекосы в сторону сокращения употребления белорусского языка. Будем принимать меры...»* — заяўляе сёння прэзідэнт.

Не буду разважаць аб ступені цынізму ў словах Лукашэнкі. Ён закрывае Радыё 101.2, скасоўвае беларускія школы, збівае людзей на мітынгах і пікетах, зневажае ў свеце саму назву «Беларусь», прымушае лепшых маладых людзей у нашай краіне марыць пра эміграцыю — і пры гэтым плача, што яго не паважаюць?!

Мяне асабіста даўно не цікавіць гэтая асоба, не турбуюць такія абстрактныя паняцці, як яго «душэўны» стан, якасці характару і псіхічныя асаблівасці. (Дарэчы, да моманту прэзідэнцтва гэтая персона не была цікавая нікому — ні журналістам, ні палітыкам.) На паводзіны Лукашэнкі я гляджу цвярозым і прафесійным позіркам аналітыка-даследніка, як біёлаг, які вывучае якога-небудзь жучка. Навукоўцу цікава ведаць, як кузурка рэагуе на цяпло і холад, якія варункі выклікаюць у яго прыступы агрэсіўнасці, што нараджае страх. Палітолагу таксама трэба ведаць некаторыя базавыя інстынкты свайго паддоследнага (інстынкт захавання ўлады як самы галоўны), каб умець прагназаваць ягоныя наступныя дзеянні.

Толькі такі абстрагаваны метад можа дазволіць ставіцца да Лукашэнкі аб'ектыўна. Бо калі ставіцца да яго як да чалавека, то ў галаву прыходзіць адна толькі нецэнзуршчына.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Як маленькія беларусы становяцца шведамі

**Сёлета на Гродзеншчыне будзе адчынены чацвёрты па ліку дзіцячы дом.**

Доўгі час у Гродзенскай вобласці быў толькі адзін — у Лідзе, аднак цяпер ён перапоўнены. У 1992 годзе ў ім выхоўвалася 146 сірот, а летась ужо больш за 400. Большасць з іх маюць бацькоў, якія альбо самі адмовіліся ад іх або былі пазбаўленыя бацькоўскіх правоў. Такіх выпадкаў з кожным годам у нас усё больш. А, напрыклад, у Швецыі пазбаўляюць праз суд бацькоўскіх правоў усяго 3-4 сям'і ў год.

Мабыць невыпадкова, што менавіта шведы, а таксама англічане пачалі ўсынаўляць беларускіх сіротаў. Вакол гэтых фактаў ўзнімаецца шуміха. Аднак альтэрнатыва можа быць толькі такая: усынаўляць гэтых дзетак будуць грамадзяне Беларусі. У Гродне вырашылі паспрабаваць і далі аб'яву ў газету. Па ўказаным тэлефоне пазванілі толькі тры чалавекі і тое дзеля цікаўнасці, усынаўляць сірот яны не збіраліся.

Што да адаптацыі нашых дзетак за мяжой, дык чуткі пра гэта існуюць самыя неверагодныя. Маўляў, прадаюць сіротаў ледзьве не ў рабства альбо для іншых злачынных мэтаў. Аднак працэдура ўсынаўлення вельмі грунтоўная. У Швецыі, напрыклад, муж з жонкай, якія рашаюцца на такі крок, павінны прадаставіць даведкі аб тым, чаму не маюць уласных дзяцей, стан свайго банкаўскага рахунку і жыллёвых умоваў, іншыя дакументы, а таксама паручыцельствы за сябе ад шасці суседзяў і сваякоў. Усе гэтыя паперы завяраюцца беларускай консульскай службай.

Сярод гродзенскіх сіротаў, якія трапілі ў Швецыю, хлопчык (імя яго называць не будзем), маці якога хварэла на сіфіліс і кінула яго ў раддоме, а таксама двайняты, да якіх у сям'і было ўжо шасцёра дзяцей, прычым усе шасцёра разумова недаразвітыя. Кожныя паўгода шведская сям'я прадастаўляе справаздачу аб выхаванні адаптаваных ёй дзяцей. Ва ўпраўленні адукацыі аблвыканкама можна паглядзець гэтыя дакументы: серыю каляровых здымкаў дзяцей у розных сітуацыях, а таксама тэкст на рускай мове. Новыя бацькі хлопчыка паведамляюць, напрыклад, што ў яго *«з мовай няма праблем, ён разумее як нашы жэсты, так і калі мы гаворым. Мы чытаем кнігі, слухаем дзіцячыя песенькі і вучым шведскую мову. Арвід ужо ведае многа словаў па-шведску і запамінае іх неверагодна хутка»*.

У адаптаваных беларускіх дзяцей цяпер ёсць па два імя: сваё і тое, што далі ім новыя бацькі. Трэба яшчэ адзначыць, што ў Швецыі на кожнае дзіця, у тым ліку і адаптаванае, у дзіцячай установе існуе па адным выхавацелі і два чалавекі абслугі.

А ў нас у вобласці цяпер праз кожны год пачалі пераабсталёўваць адзін дзіцячы сад пад дом для сірот, якія амаль адразу робяцца перапоўненымі. Была раней зроблена спроба ствараць «сямейныя» дзіцячыя дамы. Сям'ю, якая брала на ўтрыманне некалькі сірот, улады стараліся забяспечыць грашыма і пэўнымі льготамі. Але нічога з гэтага не атрымалася. Самы вядомы ў Гродне такі сямейны дзіцячы дом меў наступны вынік: набраўшы грошай, супругі адмовіліся ад сірот, а галава сямейства павінен быў сесці за краты з-за таго што спакусіў старэйшую дзяўчынку з часова адаптаваных. Так што шведаў баяцца нам наўрад ці варта.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

### АКЦЫЯ

Шэсце пад назвай «Беларусь — у Еўропу» збіраецца правесці 14 лютага ў Мінску маладзёжная арганізацыя БНФ. Удзельнікі акцыі мяркуюць сабрацца ў 17:00 на пл.Свабоды, адкуль пройдуць па вуліцах, дзе знаходзяцца амбасады дзяржаваў Еўрапейскага Саюза, і перададуць прадстаўніцтвам гэтых краін сваю петыцыю. Арганізатары спецыяльна прымеркавалі правядзенне маладзёжнага шэсця да 14 лютага — дня св.Валянціна — традыцыйнага свята закаханых.

**А.Н.**

## Дзве радыёстанцыі на адной хвалі?

**Ужо шэсць месяцаў Радыё 101,2 пазбаўлена магчымасці выходзіць у эфір.**

Шматлікія звароты рэдакцыйнага калектыву да дзяржаўных чыноўнікаў з патрабаваннем аднавіць работу папулярнай радыёстанцыі не мелі поспеху. Аляксандр Лукашэнка неяк заявіў, што аднаўленне дзейнасці Радыё 101,2 — справа не яго кампетэнцыі. Між тым нядаўна прэзідэнт падпісаў *«план мероприятий»*, падрыхтаваны У.Русакевічам, У.Замяталіным і С.Посахавым, у якім прапануецца стварыць на аснове нешматлікай групкі пад гучнай назвай «Прямое действие» ўплывовую прапрэзідэнцкую маладзёжную арганізацыю і перадаць ёй радыёхвалю *FM* 101,2. Такім чынам, з папулярнай маладзёжнай радыёстанцыі хваля 101,2 можа ператварыцца ў трэці канал дзяржаўнага радыё, па якому будуць гучаць здравіцы прэзідэнту.

Журналісты Радыё 101,2 настроены да канца адстойваць сваё прафесійнае права на распаўсюджванне поўнай і аб'ектыўнай інфармацыі. 14 лютага з 10 да 12 і з 16 да 18 гадзіны яны збіраюцца наладзіць пікет на пл.Я.Коласа і патрабаваць вяртання ў эфір Радыё 101,2.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## «Дапамажыце з'ехаць з Беларусі!»

*З такой просьбай усё часцей звяртаюцца грамадзяне ў Беларускі Хельсінкскі камітэт*

На назіраннях старшыні БХК Тацццяны Процькі, сярод тых, хто збіраецца прасіць за мяжой прытулку, у асноўным людзі ўзросту да 30 гадоў, несямейныя, з вышэйшай адукацыяй.

Жаданне з'ехаць яны звычайна тлумачаць тым, што не бачаць асабістых перспектываў у сённяшняй Беларусі ды хочуць жыць і працаваць *«як людзі»*. І хаця БХК не мае дачынення да эміграцыйных справаў, ён усё ж дае мінімальныя кансультацыі тым, хто збіраецца пакінуць краіну. Цікава, што некаторым гэта ўдаецца.

У якасці прыкладу Т.Процька прывяла гісторыю з двума мінскімі прадпрымальнікамі Д.Асташонкам і У.Івановым, якія цяпер ужо знаходзяцца ў Бельгіі і чакаюць адказу мясцовых уладаў на просьбу аб атрыманні палітычнага прытулку. БХК ніяк не дапамагаў гэтым маладым людзям, наадварот, іх папярэдзілі, што наўрад ці яны атрымаюць дазвол застацца дзе-небудзь на Захадзе. Але тыя набылі турысцкія візы, па якіх даехалі да Бельгіі. Дарэчы, менавіта гэтыя хлопцы ў перадачы «Радыёфакт» (4 лютага) былі названыя *«ганцамі апазіцыі»*, з дапамогай якіх быццам бы перадаюцца на Захад матэрыялы, што *«скажаюць становішча ў краіне»*.

Як лічыць Т.Процька, «ногі» ў гэтага паклёпу ў адрас БХК (а таксама ПЭН-цэнтра і БНФ) растуць з таго факту, што пры нерасчэнні беларуска-польскай мяжы ў Брэсце ў Асташонка і Іванова былі сканфіскаваныя бюлетэнь БХК «Рэферэндум-96» і даклад аб парушэннях правоў чалавека ў Беларусі. Як паведамілі хлопцы (з Бельгіі па тэлефоне), гэтыя матэрыялы былі ў іх не проста сканфіскаваныя, але і спаленыя там жа, на брэсцкай мытні. *«Такія прыклады наносяць яшчэ большую шкоду міжнароднаму рэнамэ Беларусі, а яе жыхарох толькі падштурхоўваюць да таго, каб яны з'язджалі са сваёй радзімы куды заўгодна»*, — адзначае старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта Тацццяна Процька.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

*ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ*

## Только зубастая оппозиция может «вправить мозги» советскому белорусу

Читаю в газете СВАБОДА о заседаниях Верховного Совета 13-го созыва, о теневом кабинете министров, о шаманских заклинаниях Шарецкого (что Конституция 1994 г. — это один единственный легитимный Основной закон в Беларуси и т.п.).

Не знаю как вы, но я от такой информации зверею. Эти господа депутаты (аграрии, юристы, профессора и бывшие компартработники) предали нас в ноябре 1996 года. Своей трусостью они лишили себя права рассчитывать на нашу поддержку. Время их ушло. Теперь пусть заседают себе в конспиративной обстановке хоть до пенсии. Теперь должна решать улица, т.е. те люди, которых они обманули. Я помню слезы в глазах истинных белорусов в ту промозглую осень — это были слезы боли, отчаяния и позора. Такое не забывается! И не прощается! Пусть не надеются заседатели ВС и бывший конституционный судья Тихиня, что на очередном благоприятном витке они вновь будут наверху говорить от лица народа. Улица даст своих лидеров, готовых на Поступок и для которых Беларусь — не товар и не разменная монета в торговле за лояльность восточного соседа.

Нынешний режим уважает только силу и разговаривать с ним надо на его же языке! Время «диванных политиков» прошло, пока они пудрят мозги обществу своими подсчетами падения производства и импорта с экспортом — Лукашенко вообще лишит нас государственности и какой-либо надежды на будущее. Наконец-то БНФ понял, что говорильня дядьки Семена со товарищи — это пустая трата времени, ибо у Всебелорусского директора еще остался последний и основной референдум — объединительный, который он использует. (Может быть даже в ближайшее время. А захочет — не использует.) А результаты референдумов со 100% гарантий можно предугадать заранее, благо учет и контроль теперь у нас поставлен хорошо.

Мое мнение, «шаноўныя спадары», таково: если мы считаем себя народом со своими этническими особенностями, традициями, историей и культурой, — то почему же мы не боремся за свой Национальный дом? Почему нас на демонстрациях, митингах хватает милиция, избивают и сажают в застенки? Почему людей, ратующих за независимость Беларуси, называют фашистами, а сторонников объединения с Россией — белорусскими патриотами? Как говорится, «все смешалось в доме Облонских». Но ларчик просто открывается. Так называемая оппозиция Верховного Совета, претендующая на роль ведущей и направляющей, на самом деле никуда не ведет и показывает только всему сознательному и несознательному элементу республики, что силе перечить нельзя, а то окажетесь в нашем плачевном положении. От этого и растерянность, и неорганизованность, и смешение мыслей и оценок. Только зубастая оппозиция может «вправить мозги» советскому белорусу. На удар спецназовской дубинкой должен быть адекватный ответ — только тогда эти подонки будут думать перед тем, как ударить. Еще раз повторюсь, что этот режим уважает только силу и только жесткими методами можно добиться чего-нибудь стоящего.

С уважением

**И.АЛЕКСАНДРОВИЧ,**
*г.Могилев*

*P.S. Не подписываю своей настоящей фамилией не потому, что боюсь репрессий со стороны режима, а потому, что считаю — лучше сложить голову на баррикадах, чем сгнить заживо в застенках.*

# Беларускае масла нямецкім не сапсуеш

*Ветэрынарная служба Беларусі прыпыніла з 3 лютага ўвоз малочных прадуктаў з Германіі*

**Галоўны ветэрынар рэспублікі Станіслаў Шпілеўскі патлумачыў карэспандэнту СВАБОДЫ, што ў Германіі зафіксаваныя новыя выпадкі захворвання кароў губчатым энцэфалітам *(BSE)*, які яшчэ называюць «каровіным шаленствам». Станіслаў Шпілеўскі, аднак, запэўніў, што ўсе замежныя прадукты, якія цяпер прадаюцца ў беларускіх крамах, не выклікаюць занепакоенасці.**

Дастаткова зазірнуць у Цэнтральны мінскі універсам, каб убачыць шырокі асартымент замежных прадуктаў. Акрамя нямецкага малака, вяршкоў, масла, ёгуртаў, цялячых каўбасак ды сасісак з ялавічыны тут ёсць мясная прадукцыя з Італіі, Даніі, Бельгіі, малочная — з Францыі, Фінляндыі, Галандыі... Як паведамілі ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, імпартная мяса-малочная прадукцыя, якая паступае на прылаўкі беларускіх крамаў з-за мяжы, складае прыкладна 8 працэнтаў. Гэта пераважна прадукты польскай, нямецкай і галандскай вытворчасці.

Яшчэ ў 1990 годзе беларускі ўрад спыніў паступленне ялавічыны з «небяспечных» еўрапейскіх краін, дзе здараецца «каровіна шаленства». Асабліва гэта датычыць Вялікабрытаніі, у якой за апошнія гады выяўлена больш за 165 тысяч выпадкаў *BSE*. У Нямеччыне, ад якой нас цяпер абараняюць ветслужбы, выяўлена толькі пяць выпадкаў. Гэта былі жывёлы, завезеныя пераважна з Вялікабрытаніі. Што да харчавання, то экалагічны кантроль за ім можа стаць прыкладам і для беларускіх ветслужбаў. Дастаткова было адной ахвяры *BSE*, як у Боне прымаецца рашэнне забіць і спаліць каля 5.200 кароў, якія былі ўвезены на тэрыторыю Нямеччыны з Вялікабрытаніі і Швейцарыі. Магчыма, такі ж лёс чакае і каля 14.000 цялят, якія нарадзіліся ад імпартных жывёл. Усё гэта робіцца дзеля таго, каб перадухіліць небяспеку распаўсюджання *BSE* па свежых слядах. Калі шчыра, наўрад ці Нямеччына больш небяспечная для Беларусі, чым Расія, адкуль можа патрапіць прывязное мяса.

### Расійскія ветэрынары менш пільныя?

Як піша газета «Известия», у 1996 годзе імпарт ялавічыны ў Расію склаў 440 тысяч тон (у тым ліку каля 200 тыс. тон мяса паступіла з Ірландыі). У Нямеччыне выяўлена значна меней выпадкаў *BSE*, чым у Ірландыі. Аднак Расія (як і Украіна) працягвае купляць ірландскую ялавічыну. Расійскія ветэрынары пастаянна знаходзяцца ў Ірландыі і кантралююць пастаўкі мяса для расійскага рынку. Як сказаў галоўны ветэрынар Беларусі Станіслаў Шпілеўскі, *«патрабаванні ў расійскіх ветэрынараў прыкладна такія ж, як і ў беларускіх. Іншая справа, што расіяне іх не заўсёды прытрымліваюцца»*. Па словах сп.Шпілеўскага, Беларусь не збіраецца накіроўваць у замежныя краіны сваіх ветэрынараў для адбору мясамалочнай прадукцыі. Галоўны ветэрынар выключае магчымасць пранікнення на беларускі рынак таннай ірландскай ялавічыны праз Расію. Раней у нашай краіне можна было рэалізоўваць мяса па расійскіх сертыфікатах. Але са жніўня мінулага года Беларусь не прызнае расійскага сертыфікату і патрабуе браць дазвол у беларускіх ветэрынарных службаў.

Між тым Нямеччына застаецца адным з самых буйных пастаўшчыкоў ялавічыны ў свеце. Па дадзеных часопіса *Der Spiegel*, штогод ФРГ экспартуе 430 тысяч тон мяса ў Францыю, Італію, Данію і іншыя краіны Еўрапейскага саюза і свету. З гэтай колькасці ў краіны СНД пастаўляецца больш за 60 тыс. тон. Аднак у Беларусь дарога нямецкаму мясу перакрытая.

Тым часам беларускія мясакамбінаты працуюць са стратамі, бо паменшыўся попыт на гатовую прадукцыю, якая значна падаражэла. Сённяшнія цэны, прызначаныя загадам зверху, не пакрываюць затратаў на мясную сыравіну. Напрыканцы мінулага года некаторыя заводы закупілі таннае мяса ў Польшчы, аднак пакуль давезлі, «растаможылі», заплацілі два падаткі, яно стала каштаваць не менш за айчыннае.

### Рынак не для ўсіх

У рэшце рэшт, як лічыць начальнік упраўлення экспарту і імпарту мінсельгасхарчу Беларусі Георгій Зубкевіч, мяса з Нямеччыны ці Вялікабрытаніі можа трапіць у Беларусь праз Польшчу, якая з'яўляецца не вытворцам, а пасярэднікам. Польская прадукцыя ўсё ж будзе паступаць у Беларусь, бо, па словах начальніка, *«нейкі працэнт імпарту павінен быць»*. Вядома, ён будзе кантраляваць зверху, каб не паўтарыўся *«класічны варыянт заваявання рынку»*, калі амерыканскія курыныя кумпячкі «знішчылі» расійскую курыную вытворчасць. Дзякуючы *«жорсткім мерам»* у Беларусі захавалася птушкагадоўчая прамысловасць, лічаць у мінсельгасхарчы. Пачынаючы з 1995 года міністэрства не дало ніводнага дазволу на ўвоз амерыканскіх «ножак Буша» ў нашую краіну. Праўда, іншы раз іх завозяць нелегальна. Наўрад ці шмат знойдзецца пакупнікоў у беларускіх крамах, задаволеных коштам і якасцю беларускай курацыны. Аднак былары не існуе і даводзіцца брацць тое, што прапануюць.

Лёс амерыканскіх кумпячкоў у Беларусі, відаць, напаткае і нямецкі ёгурт ці маргарын *Rama*, які можа выкарыстоўвацца замест беларускага масла. У той час, як цэны на беларускае масла падскочылі да 80 тысячаў за кілаграм, нямецкая *Rama* была на тысяч пятнаццаць таннейшая. Цяпер яе кошт паднялі, а ў сувязі з забаронай ветслужбаў *Rama* знікне з продажу. Гісторыя з амерыканскай «шкоднай для здароўя» курацінай вельмі нагадвае цяперашнюю гісторыю з нямецкай малочнай прадукцыяй. Прычына ўсё тая ж: калі купляць мяса і малако за мяжой, то, як сцвярджаюць у мінсельгасхарчы, *«нашыя калгаснікі застануцца без працы»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Віцебскі «Мегом» зачыняюць

**Віцебскі завод «Мегом» (былы гігант савецкага ваенна-прамысловага комплекса) будзе зачынены.**

Пра гэта паведаміў рабочым прадпрыемства на сходзе генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання «Маналіт» Аляксандр Брухноў. («Мегом» уваходзіць у склад «Маналіта».)

СВАБОДА (ад 21 студзеня) пісала, што кіраўніцтва аб'яднання, каб выратаваць завод ад банкруцтва, пачало прадаваць маёмасць і звальняць рабочых. Нагадаем, што тры гады таму на «Мегоме» працавала 4,5 тыс. чалавек, цяпер іх засталося толькі 1,3 тысячы. На пачатку гэтага года з завода «Мегом» яшчэ думалі зрабіць невялікі цэх, дзе меркавалі пакінуць 300—400 чалавек. Аднак, мусіць, падлічылі, што і гэты крок не ўратуе. Таму вырашылі завод цалкам закрыць. Дарэчы, «Мегом» — першае прадпрыемства радыёэлектроннай прамысловасці Беларусі, на вароты якога павесяць замок.

**Барыс ХОЛАД**

## Усё, што можна – ужо пакралі?

**У Гомельскай вобласці за мінулы год было зафіксавана 3.240 эканамічных злачынстваў, што амаль на 300 злачынстваў болей, чым у 1995 годзе.**

Міліцыя адзначае, што ў 1,5 раза больш узбуджана крымінальных справаў па фактах хабару і скарыстання чыноўнікамі службовага становішча ў карысліва мэтах. Напрыклад, у 1996 годзе выяўлена ажно 140 фактаў незаконнага атрымання банкаўскіх крэдытаў на агульную суму больш за 15 млрд. рублёў і 3,5 млн. долараў. У асноўным гэтыя сродкі выдзяляліся нібыта на закуп лекаў і развіццё розных сацыяльных праграм.

Разам з тым крымінальная статыстыка сведчыць, што амаль удвая зменшылася колькасць крадзяжоў на дзяржаўных прадпрыемствах. Відаць, усё, што можна было скрасці, там ужо скралі.

**Мікалай ГРЫПІЧ**

## Жыровіцкія місіянеры

**У духоўнай семінарыі, што знаходзіцца ў мястэчку Жыровічы Слонімскага раёна, створаная першая місіянерская група з ліку семінарыстаў.**

Семінарысты ездзяць па аддаленых вёсках і хутарах Гродзенскай вобласці, каб *«адкрыць сэрцы для малітвы і пакаяння»* у людзей, якія цяпер не могуць патрапіць да царквы. Місіянеры-семінарысты выступаюць з пропаведзямі, чытаюць біблейскія вершы, спяваюць псалмы. У перасоўным царкоўным шапіку вяскоўцы могуць набыць Біблію, крыжыкі і абразы.

**Алесь КАСТРАВІЦКІ**

